№ 43. Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на 1/2 году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы — 1 м. 20 ф., на 1 мес. — 40 фэн.

Беларуская Віленская часопіс
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакції: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрації і экспэдыціі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:
на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі — па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 43 (135). Год II. Вільня, 29 мая 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## Французы ня будуць у Штокгольмі.

**27.V. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* У завароці Вітчэта і наабапол Скарп крапчэла баевая работа.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Французы чатыры разы дарэмна атакавалі ўзятые намі пазыціі на палудні ад Парні. Пяты штурм зьмеркаларньнем адбіт гэтак сама. У Шампані, на заходзі ад Сюіпп, значны агонь артылерыі.

26 мая збіты 15 самалётаў ворагоў. Паручык Фосс збіў свайго 30-го ворага.

**Усходні тэатр:**

Без ніякіх выдатных прыпадкоў.

28. V. **Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* Між Іпрам і Армант'ер, пры Ільліш і наабапол Скарп пры яснай пагодзі развіваліся вельмі вострые артылерыйскіе бітвы. У поўначы на заходзі ад Вітчэта адкінуты контратакай некольні англіцкіх рот. Між Сэрізэ і Бількур да самай начы трывалі вострые бітвы. Новые атакі англічан крывава разбіліся аб упорство нашых войск.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* У Шампані вюртэмбэрскіе і тюрынгенскіе палкі ўзялі бойкім штурмам некольні варожых акопаў на поўдні ад Моронвільле. Контратакі ворагоў, меўшых вялікіе страты, адбіты. Мы ўзялі 250 французоў і некольні кулемётаў.

Нашы лятуны збілі 12 варожых самалётаў і 2 лятучые шары.

**Усходні тэатр:**

Без перамен.

### Аустрыяцкае апавешчэньне.

ВЕНА. 27. V. **Італьянскі тэатр:** Цэнтр баталії быў учора на палудзенным крыле арміі на Ізонцо. На плоскагорыі Карст ворагі некольні разоў збіралі вялізарные грамады войск дзеля націску. Між Ям'яно і морам бітва перасоўвалася ўзад і ўпярод. Некольні вяршын зменялі колькі разоў сваіх валадароў. Але ненарушыма і цьвёрда стаіць і тут фронт абаронцаў.

Ад 23 мая ўзято на плоскагорыі Карст у палон 250 італьянскіх афіцэроў і больш за 7.000 салдатоў. Ад пачатку дзесятай баталії на Ізонцо ўзяты ў палон больш за 13.000 нераненых італьянцоў.

ПАРЫЖ. (Гавас). Нацыональная рада французскай соцыялістычнай партыі сабралася сягоньня, каб зацьвярдзіць пастанову, што **ніводзін французскі соцыяліст не атрымае паручэньня быць прэдстаўнікам партыі у Штокгольмі.**

ПЕЦЯРБУРГ. (П. Т. А.). 27. V. З'езд афіцэроў перэвагай 265 проці 246 галасоў прыняў рэзолюцію, ў каторай між іншым гаворыцца:

„Уважаючы, што ратунак Бацькаўшчыны вымагае напружэньня ўсіх сіл стараны, з'езд **прызывае** ўсіх расейскіх **афіцэроў падаць братнюю руку рэвалюцыйным салдатам і работнікам,** каб згодліва ўмацаваць дабытую рэвалюціей волю".

Разам с тым з'езд прызывае паменёные класы ў гэткі цяжкі час забыцца аб сваей асабістай карысьці, падтрымаць тымчасовы урад і памагчы яму упраўляць старонкай да сазыву устаноўчаго сэйму. З'езд з радасьцю **прыстаў** у канцы **на прыказ Керэнскаго аб наступленьні.**

ПЕЦЯРБУРГ. (П Т. А.). 27. V. Міністры-соцыялісты Чэрнов, Скобелев і Цэрэтэлі прыбылі сягоньня ў раду раб. і салд. і здалі тамака справу са сваей чыннасьці ад часу паступленьня ў тымчасовы урад. Пасьля гэтаго **рада** безмала ўсемі галасамі **выказала сваю веру** паменёным міністрам і ўсяму **тымчасоваму ураду.**

ПЕЦЯРБУРГ. **Керэнскій** разам с французскім міністрам Тома **прыбыў на палудзенна-заходні фронт,** дзе яго спаткаў глаўнакамандуючый гэтым фронтам, ген. Брусілов.

Міністэр - соцыяліст Скобелев прыняў мейсцо ў тымчасовым урадзі толькі с тэй умовай, што **мэталюргічные заводы** пяройдуць **на ўласнасць гасударства.**

ПЕЦЯРБУРГ. Ваенны міністэр Керэнскій аканчацельна загадаў, каб **афіцэроў выбіралі салдаты.**

22 мая маскоўскі ваенны округ аб'яўлен на усіленым **асадным палажэньні.**

Рада раб. і салд. прасіла асыгноўкі 10 мільёнаў руб. дзеля розных палітычных работ.

РОТТЭРДАМ, Члены англіцкай Ніжняй Палаты, трудавікі **Торн і О'Грады, вярнуўшыся з Расеі, апаведаюць:**

„Усюды чуваць кліч: без аннэксій і без контрыбуцій! Расея ня хочэ паддзержаць жаданьня забраць Эльзас і Лётарынгію і вярнуць страты Бэльгії. Соцыал-дэмократычные газэты адкрыта заяўляюць, што армія змучэна і стаіць перад голадам".

ПАРЫЖ. У пятніцу **баставалі каля 25 000 работніц.** Баяцца, што забастоўка перакінецца ў Ліон, дзе ў ваенных швальнях працуе 25.000 работніц.

ВЕНА. Аўстрыяцка-вэнгерскіе газэты пачалі 26 мая **абгаварываць ваенные мэты монархії.** Трэба дамагацца поўнаго забаспечэньня вольнаго плаваньня у Адрыатыцкім моры і па Дунаю. Ловчэн, каторы грозіць Адрыатыцкаму мору, ня можэ быць аддадзен. Надзор над Дунаем ня можэ далей аставацца ў руках сэрбоў і румыноў. Аўстрыя ня можэ больш дапускаць варожых экономічных фортаў каля сваіх граніц. Аднак, ад гэткіх забаспечэньнёў нацыональнае жыцьцё сэрбоў і румыноў не пацярпело-бы.

*Вільня, 29 мая 1917 г.*

Хто добра сам ведае, куды ён ідзе і чаго дабіваецца, хто мае перад сабой ясную пуцяводную зорку, таго не звядуць з дарогі ніякіе прашкоды, ніякіе прыпадковые здарэньня. А ў нашым жыцьці такіх прыпадковых здарэньнёў—багата, і яны часта гэткіе яркіе, што могуць на момэнт засланіць і самую нашу мэту.

Нешта падобнае бывае с параходам, каторы плыве цераз акіан. Тысячы вёрст аддзеляюць адзін бераг водных абшароў ад другога. Магутные буры кідаюць параход, як шчэпку; яго заліваюць вялізарные хвалі, спавіваюць густые, непраўдные туманы. Але на параходзі ёсць **компас,** стрэлка каторага заўсёды звернена ў адзін бок — паказвае поўнач, і з гэтай прыладай маракі ніколі не саб'юцца са сваей пуціны.

Многа страшэнных навальніц праляцело над народам беларускім. Густы туман цемнаты спавіваў яго і не дапускаў да яго праменяў сонца. Чужынцы залілі яго зямлю. Але ў сэрцы нашаго народу не затухла іскра жыцьця, ня счэзло жаданьне волі. І гэтае жаданьне вызваленьня ёсць наш компас, каторы паказвае беларускаму грамадзянству дарогу да нашай мэты: да вольнаго, незалежнаго быту роднаго Краю.

Шыбка меняюцца варункі жыцьця,—асабліва ў гэтым часі, калі громы гармат устрэсаюць асновы сусьветнаго ладу, калі невядома, як будзе заўтра выглядаць карта Эўропы. І мы, каб ня збіцца з дарогі, павінны тым больш пільна угледацца ў сваю мэту, разумеючы, што народ беларускі толькі тады здабудзе для сябе лепшую будучыну, калі, ня гледзючы на змену палітычных ор'ентацій, будзе і далей дзержацца сваей **беларускай** ор'ентації.

## Забыты Край.

Кожнаму вядома, што Польшчу ад Расеі аддзеляюць землі, на якіх жывуць беларусы і украінцы. Здаецца, ўжо праз адно толькі гэта палітычны розум павінен быў-бы падказаць палякам, што будучына і моц іх дзержавы у значнай меры будзе залежаць ад таго, ці яны здалеюць наладзіць добрые адносіны з гэтымі сваімі найбліжэйшымі суседзямі, — так сама, як і з літвінамі, праз землі каторых праходзіць дарога с Польшчы да вольнаго мора. Дык жэ не: польская буржуазія, польскае панство, каторые здаўна пры-

выклі высысаць усе сокі са свайго народу, нават і не задумываліся аб тым, што с тымі «мужыцкімі» націямі можна і трэба так ці сяк згаварыцца! Палітыка польскіх кіраўнічых кругоў заўсёды глядзела на нас, як на безгалосную массу — цёмную, несьвядомую ані сваей нацыянальнасьці ані сваей сілы.

Усё было добра, пакуль нашы народные массы папраўдзі спалі, пакуль за ўвесь наш Край прамаўлялі польскіе паны, якіе мелі тутака найбольшую экономічную і культурную сілу. Але сталося тое, чаго яны не спадзеваліся: местовы работнік і мужык-гаротнік збудзіліся ад векавечнаго сну, і на ўсім сьвеці голас прапоўнаго народу здабыў незвычайную моц і вагу. І ўжо ня жменя паноў, а вялікіе грамады народу прамаўляюць за сябе і за той край, дзе яны жывуць

Гэтак адны за аднымі выступалі на сусьветную арэну украінцы, літвіны, а ўрэшці — беларусы. А с таго момэнту, як яны падалі свой голас, усе гордые пляны польскіх паноў аказаліся збудаванымі на лятучым пяску... І ўсё-ж такі, хаця сталося гэта задоўга перад цяперашняй сусьветнай вайной, польскае панство нічога не навучылося: засьлепленае верай у сваю моц і творчые сілы свайго народу, яно ня толькі не змяніло сваей палітыкі, а, наадварот, аб'явіло непрымірымую вайну «мужыцкім» народам.

Ясна, як Божы дзень, што тые «мужыцкіе» народы аказалі цьвёрды адпор польскім захватным апэтытам. Мала таго: як беларусы, так і украінцы і літвіны зразумелі дужа добра, што іх-жэ ўласны інтэрэс вымагае, каб яны дзержаліся ўсе разам, каб стварылі крэпкую сьцяну, якой не здалелі-бы разбіць іх ворагі. І яны пайшлі па гэтай дарозі еднасьці, хоць многа на ёй было і дагэтуль ёсць каменьнёў і ўселякіх прашкод.

Цяпер асаблівы націск робяць палякі на тые беларуска-украінскіе землі, якіе знаходзяцца на ўсходзі ад Польшчы. Гэта творыць новую аснову дзеля беларуска-украінскай еднасьці, і ўсё што робіцца ў нашых братоў-украінцоў, вельмі цікавіць беларускае грамадзянство.

У межах нямецкай окупаціі беларусы гранічаць з украінцамі ў палудзеннай часьці Гродзеншчыны. Але украінцы ўрэзываюцца і ў межы Польскаго Каралеўства, занімаючы часьці Седлецкай і Люблінскай губэрній— так-званую Холмшчыну. Хоць украінскі народ шмат папярэдзіў беларусоў у сваім руху да нацыянальнаго адраджэньня, аднак, у Холмшчыне і у Гродзеншчыне украінскае насяленьне неяк адстало ад агульна-украінскаго жыцьця. Пад цяжкім уціскам маскалёў і палякоў, аддзеленые ад усяго свайго народу пушчамі і балотамі, жывучы здалёку ад Галічыны, дзе украінцы дайшлі вольнаго жыцьця і скуль у Расейскую Украіну даходзіло украінскае друкаванае слово і думкі аб вызваленьні, — украінцы ў гэтым куце не выяўлялі да апошніх часоў самабытнаго жыцьця, ня мелі нават ніводнай украінскай часопісі. Ды гродзенскіе украінцы жылі больш блізкім духовым жыцьцём з беларусамі, чым са сваім народам. Але грозьба няволі ў незалежнай шляхоцка-панскай Польшчы прымусіла прыступіць да дзела і гэту часць украінскаго народу. Грозьба гэта будзіць ўсе чынные сілы, якіе пачынаюць гуртавацца і абдумываць способы змаганьня за сваю волю. Трэба думаць, што і адгэтуль паднімецца жывы голас пратэсту проці аннэксыйных пляноў Польшчы, — голас, згодлівы з ясна выяўленым голасам беларусоў.

*І. Мелешка.*

# У Вільні і ваколіцах.

× **Беларускі Клюб.** С прычыны рэквізыціі дзеля ваенных патрэб памешчэньня Клюбу пры Віленскай вул. 28, **Беларускі Клюб перэбраўся на сьв.-Юрскі праспэкт, дом № 22, ў панадворку, ў быўшае памешчэньне „Руты“.**

× **Аб беларускім тэатры.** У вядомым нямецкім журналі „Über Land und Meer“, каторы выходзіць у Штутгарці, д-р Фэхтэр апісывае тэаральнае жыцьцё ў Вільні. Аб беларускім тэатры ён, між іншым, пішэ:

„Беларускі тэатр мае наймацнейшые корні ў характэрнасьці і орыгінальнасьці звычаёў і абычаёў селянскаго быту, у каторых ешчэ цяпер жывуць даўные правы і традыціі. Гэта — цэннасьці, каторые заслужываюць уважлівасьці і пашаны“.

× **Курс беларускай мовы.** У летнім сэмэстры у Ўроцлаўскім унівэрсытэці прафэсар д-р Абіхт чытае далей свой курс беларускай мовы. У сваіх лекціях пр. Абіхт разбірае цяпер „Песьні Жальбы“ Якуба Коласа.

× **Аб імя беларусоў.** У нямецкай мові дагэтуль ужываюцца два названьня беларусоў: «Weissrussen» і «Weissruthenen». Аднак, у апошнім часі перэважываўшый тэрмін „Weissrussen“ усё болей уступае мейсцо больш правільнаму „Weissruthenen“, і, як мы чулі, трэба спадзевацца, што апошні будзе прызнан за офіцыальнае імя беларусоў.

× **Пагода.** Пасьля халоднай пагоды наступіла неўспадзеўкі гарачыня. У цяню у апошніе дні тэмпэратура даходзіла + 20°.

Дзеля добраго ўраджаю патрэбны дажджы, бо земля—вельмі сухая, і ад сушы могуць папсавацца пасевы.

× **Акружны суд.** Тры небаспечные зладзеі кароў: Клейзэр, Рудштэйн і Гордон, каторые кралі кароў з абор, засуджэны: першы і другі—на 1 год і 9 мес. кожын, а трэйці—на 1 год. у вастрог.

× **Скорая помач** ад 14 да 20 мая дадзена ў 78 прыпадках. Карэтка выежджала 54 разы.

× **Курс рубля:** офіцыальны — 2 м. 00 фэн. за рубель; у банках пры прадажы — 2 м. 43 ф., пры куплі—2 м. 47 ф.

Пазычковая каса бярэ 6°/°.

# З усяго Краю.

Нямецкіе **срэбные, ніклёвые і медные грошы выводзяцца з ужытку, і іх надалей ня будуць прынімаць пры выплатах. У межах** Обэр Ост у найбліжэйшым часі іх будуць меняць у офіцыальных разменных установах на „нямецкіе рублі“.

ДРУСКЕНІКІ. **Купаньня** ў салёнай вадзе пачаліся тут 25 мая.

ДОЙЛІДЫ. Селянін Т., на сенажаць катораго суседзі пастаянна выганялі скаціну, не знайшоў іншай рады, каб пазбавіцца ад няпрошэных гасьцей, і **падпаліў сваю сенажаць.** Беластоцкая пажарніцкая дружына затушыла пажар, а Т. за неразумны паступак аддалі пад суд.

ГРОДНЯ. 22 мая **віленская жыдоўская драматычная дружына** іграла п'есу Шолома Аша «Земляк» і Артура Шніцлера «Вясельная раніца Анатоля».

Каля Красян, Сакольскаго пав., узняліся **лясные пажары,** але, дзякуючы стараньням жыхароў суседніх вёсак, агонь быў шыбка затушэн.

ГРОДНЯ. Найвялікшы гэтаго часу музыка-піяніст Шэрвэнка і бас Эльс далі тут канцэрт на і дзень Тройцы.

Каб выкарыстаць трупы скаціны, пры местовай бойні адкрыт пункт, куды можна аддаваць за плату трупы ўселякай жывіны.

ПУРСЫЧЫ. У селяніна Б. укралі чорную кабылу. Сьляды вядуць на Скідэль.

БЕЛАСТОК. Тутэйшы жыхар Ізраэль Х. за патайны бравар засуджэн на 800 марак штрафу.

КОУНА. Загадам граданачальніка на ўсе вазы накладаецца падатак: на парные панскіе—50 мар., на аднаконные панскіе—25 м., на ламавікоў — 20 або 15 м. і на селянскіе—10 або 5 м.

За прывод скаціны на рынак с каня і рагатай скаціны трэба плаціць 30 фэн., а за дробную жывёлу—20 фэн.

ЯНОВ. Тут ізноў укралі каня.

НОВА-ПЕРАРОСЛЬ, Сувальск. пав. За падбіваньне народу да праціўленьня ўласьці і недаваньня бульбы аднаго тутэйшаго селяніна засудзілі на 2 гады ў вастрог.

ЛІБАВА. У тым тыдні тут гасьцілі 7 турэцкіх афіцэроў, каторые агледалі место.

# Рэволюція у Расеі.

КОПЭНГАГА. Пасьля ўступленьня Тэрэшчэнкі на мейсцо міністра загранічных спраў, ён пачаў перэгаворы с правіцельствамі саюзьнікоў і заявіў ім, што ў расейскім народзі пануе **агульнае жаданьне міра.** Расея адкідае думку аб сэпаратным міры с цэнтральнымі дзержавамі, але, з другога боку, яна ня можэ паддзержываць цяперашняй праграмы саюзьнікоў, каторые кіруюцца да заваеваньнёў. З гэтай прычыны **Расея трэбуе змены умоў с саюзьнікамі.**

РОТТЭРДАМ. «Manchester Guardian» даносіць, што Тэрэшчэнко ў гутарцы з адным карэспандэнтам сказаў гэтак: „Кожная думка аб сэпаратным міры—гэта абіда для Расеі і новаго ураду. Новае міністэрство—гэта міністэрство грамадзянскай баспечнасьці. У урадовых кругах пануе пераконаньне, што разам з умацаваньнем фронту трэба дабіцца **уроды** с саюзьнікамі **аб ваенных мэтах**“.

ШТОКГОЛЬМ. Вярнуўшыйся з Расеі швэд друкуе ў «Aftonbladet» пад загалоўкам **„Расея—вассал Англіі“** важные ведамасьці аб палажэньні ў Расеі.

Ўся гасударственая машына Расеі знаходзіцца ў руках англічан. Англіцкіе кантрольные ўласьці ня толькі выдаюць пашпарты на выезд заграніцу, але маюць кантроль над усімі болей-меней значнымі выплатамі правіцельства. З годных веры крыніц даносяць, што між Англіей і Японіей зроблена умова, забаспечываючая іх інтэрэсы і пазыкі, дадзеные Расеі. Са згодай Англіі Японія бытцым-то мае право заняць Манджурыю і ўсю усходнюю Сібір, але павінна даць 300 000 душ войска дзеля устанаўленьня ладу ў Расеі. Весткі аб заняцьці Архангельска англічанамі і Харбіна — японцамі пацьверджаюцца. Англія і Японія пануюць над важнейшымі пунктамі, якіе звязываюць Расею з заграніцай, і Расея знаходзіцца ў поўнай уласьці гэтых дзьвех дзержаў. Настраеньне расейскіх народных масс вельмі варожае да англічан і амэрыканцоў. На фронтах забіты рад англіцкіх і японскіх афіцэроў.

ЛЮГАНО. «Corr. della Sera»» даносіць с Пецярбурга:

На з'ездзі афіцэроў амэрыканскі пасол заявіў, што **Амэрыка стаіць за мір без аннэксій і контрыбуцій.**

ШТОКГОЛЬМ. Расейская цэнзура пазволіла газэтам друкаваць цэлком **ваенные апавешчэньня цэнтральных дзержаў.**

Да 15 мая ў паадзінокіе міністэрствы паступілі **жаданьня нацыянальных конгрэссоў устанавіць 18 рэспублік** у Эўропэйскай Расеі і ў Сібіры.

ПЕЦЯРБУРГ. Рада міністроў занімалася пытаньнем аб **прэдстаўніцтве ўсіх нацыянальнасьцей на установчым сэймі.** Аднак, высьнілося, што развязаць яго, здаволіўшы ўсе нацыянальнасьці, — вельмі трудна. Развязка будзе, здаецца, такая, што прэдстаўнікі некаторых нацыянальнасьцей будуць мець на установчым сэймі толькі дарадчы голас.

Расейскі камітэт дзеля спраў стравaваньня пастанавіў выдаць адозву да народу, адзначываючы незвычайную вагу палажэньня. Грамадзян Расеі асьцерэгаюць, каб ня езьдзілі у Маскву, дзе с прычыны незвычайна вялікаго чысла прыежджых усе кватэры перапоўнены і пануе страшэнная даражыня.

У палацу графіні Воронцовай-Дашковай засела банда з 240 аружных людзей, каторые называюць сябе «дабравольнымі абаронцамі вольнай Расеі». Калі падыйшла паліція, яны пачалі стрэляць. Ім прэдлажылі паддацца, але яны адмовіліся. Тады палац акружылі з усіх старон.

У Ростове арэштавалі начальніка дывізіі, ген. Макеева, за пропаганду за стары лад.

У Палтаві за тоеж самае арэштавалі начальніка кадэцкаго корпуса, ген. Клінкенбэрга. У Саратове арэштавалі цэлую монархістычную організацію пад кірункам афіцэроў і папоў. Там-жэ знайшлі многа проклямацій пад загалоўкам: „Дайце нам цара і хлеба“. У Рызе салдаты забілі нажамі гуляўшаго генэрала Карпова, каторы кіраваў салдацкімі монархістычнымі організаціямі.

ЛЮГАНО. У расейскім габінэці сідзяць **тры крайніе соцыялісты:** Чэрнов, Цэрэтэлі, Скобелев. Іх кліч—гэта мір без аннэксій.

У Пецярбурзі арэштавалі **галаву анархістоў,** нейкаго Бэртольда, каторы адкрыў газэту „Коммуна“ і вёў пропаганду за рэвалюцію і клясовае змаганьне. Кашуць, што ён—провокатор старога ладу.

Керэнскій павёз с сабой на фронт суровые дысцыплінарные кары, аднак, выключаючы кару сьмерці.

ПЕЦЯРБУРГ. На соцыялістычным з'ездзі ўсемі галасамі проці аднаго прынята рэзолюція, паводлуг каторай **Скобелева і Цэрэтэлі востра судзяць** за тое, што **яны** ўступілі ў правіцельство, і ня лічаць іх болей у радах соцыял-дэмократіі.

Большая часць провінцыональных організацій рады раб. і салд.— **проці** навейшай тактыкі рады, каторая паддзержывае **коаліцыйнае правіцельство**. Можэ быць, што з гэтай прычыны Скобелев і Цэрэтэлі выступяць з ураду, а рада раб. і салд. будзе перастроена.

Керэнскій загадаў **нагледаць за староннікамі міра**. Яны могуць ехаць на фронт толькі маючы спэцыяльнае пазваленьне.

ПЕЦЯРБУРГ. Восьмы з'езд кадэцкай партыі прыняў рэзолюцію, ў каторай гаворыцца:

„Кадэцкая партыя пераконана, што прыналежнасць яе да ураду— найлепшае забаспечэньне ад контррэвалюціі, і спадзяецца, што ўступленьне ў габінэт левых паддзержыць павагу правіцельства і паложыць канец **непрыязьні між урадам і старанрй**".

ШТОКГОЛЬМ. Пецярбурская рада раб. і салд. сазвала на 14 мая ў Пецярбурзі агульны з'езд **работнікоў, салдатоў і селян**. Справы да разгляду: адносіны да вайны, змаганьне за мір, рэвалюцыйная дэмократыя і урадовая ўласць, падгатоўка констытуцыйнаго сэйму, пытаньне аб нацыональнасьцях Расеі, зямельная, работніцкая і салдацкая справы, організацыя арміі і старваваньне яе, фінансовая палітыка, мейсцовае самаўпраўленьне і выбары ўсерасейскаго работніцкаго камітэту.

ШТОКГОЛЬМ. З'езд прэдстаўнікоў фронтаў дамагаецца **конфіскаціі меньня і зямлі**, прыналежных да **манастыроў**.

Офіцыальнае П.Т.А. прыносіць з усіх губэрній весткі аб **анархіі** ў іх.

МАСКВА. З усіх канцоў Расеі даходзяць весткі, што **селяне ня хочуць ждаць з развязкай** зямельнай справы да сазыву устаноўчаго сэйму. Грамадзкіе упраўленьня забіраюць зямлю і адмаўляюцца плаціць за яе.

«Русск. Інв.», газэта генэральнаго штабу, жаліцца на хаотычны стан на расейскіх чыгунках, дзе бліска кожын дзень бываюць катастрофы.

МАСКВА. „Русск. Вед." даносяць, што з'езд купцоў і прамысленнікоў энэргічна пратэстуе проці праекту завясьці **монополію збожжа** ў Расеі.

АМСТЭРДАМ. З'езд салдацкіх дэпутатоў у Пецярбурзі разгледаў пытаньне аб **нацыональных легіонах**. Уважаючы на патрэбу еднасьці арміі, нацыональные легіоны прызнаны нежаданымі, але дапускаюцца нацыональные легіоны з дабравольцаў.

ГЭЛЬСІНГФОРС. У другім чытаньні фінляндзкі сэйм прыняў праекты законаў аб **правох расейскіх падданых** у прамышленасьці і грамадзкім жыцьці, дадаўшы, што гэтые правы даюцца ўсім расейскім падданым бяз рожніцы веры і націіі.

АПАРАНДА. Камісія паўстанцоў у Раўмо прыняла пастанову сэнату аб тым, што соцыалістам даецца 12 новых мейсц у местовай думе.

## З усяго сьвету.

ВЕНА. Урочыстае **адкрыцьце** імператарам аўстрыяцкаго **парляманту** адбудзецца 31 мая.

ВЕНА. У гэтым тыдні сюды прыедуць нямецкіе статссэкрэтары Гэльфферіх, Цыммэрманн і Рэдэрн дзеля перэгавораў аб **тарговых умовах між** Нямеччынай і Аўстрыей.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

### Нямецкіе апавешчэньня:

**25.V. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: У завароці Вітчэта і на паўночным усходзі ад Армант'ер англіцкіе дружыны разведчыкоў адбіты штыкамі. На фронці Артуа агонь крапчэў. Каля Ленсу ўварваўшыеся ў нашы акопы англічане выкінуты адтуль контратакай.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* На поўначы ад Краонэль, на заходзі ад дарогі Дэніс—Понт а Вэр мейсцовые французкіе атакі адбіты са стратамі.

Учорашні дзень каштаваў ворагам 10 самалётаў, збітых у бітвах на паветры і стрэламі з зямлі.

**26.V. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: Бітвы пры Лёс скончыліся тым, што ворагі зусім адкінуты. Узяты палонные і кулемёты.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: Пры Шмэн дэ Дам і на поўдні ад Пэрні мы зрабілі атаку, каторай шмат палепшылі нашы пазыціі. Узяты ў палон 14 афіцэроў і 530 салдатоў, здабыты 15 кулемётаў і шмат аружжа. На здабытых пазыціях мы спаткалі і адбілі контратаку ворагоў.

У заходняй часьці Шампані, ведзеные сільные французкіе атакі проці нашых пазыціі на поўдні і палудзенным усходзі ад Норуа пасьля сільнай падгатоўкі, каторая даходзіла да барабаннаго агня, на фронці 4 кілёмэтроў адбіты штыкамі і контратакай.

Адна з нашых лятучых эскадр абкідала бомбамі палудзеннае узбярэжжэ Англіі, Дувр і Фолькстон.

У чысленых бітвах на паветры ворагі утрацілі ўчора 20 самалётаў, ад стрэлоў з зямлі—1 самалёт. Паручык Альмэнрэдэрн збіў сваіх 19-го і 20-го ворагоў.

**Усходні тэатр:**

Між Дзьвіной і Бярэзінай, на лініі Злочов-Тарнополь, у ваколіцах Карпат і ў пагранічных гарах Молдавіі—жывейшы, чым звычайна, агонь артылерыі.

### Аўстрыяцкіе апавешчэньня.

ВЕНА. 24. V. **Італьянскі тэатр:** Учора ад палудня дзесятая баталія на Ізонцо бушуе з незвычайнай сілай. Массы ворагоў атакуюць на ўсім фронці. 40 кілём. шырокім, між Плаваю і морам. Шмат дзе бітвы трывалі і ў начы. У ваколіцах гары Кук, каля Водіцы і проці Монтэ Санто ворагі кідалі ў бой свае штурмовые колонны. Яны ўсюды адбіты. Асабліва вострая бітва ішла на плоскагорыі Карст. Пры Костан'евіцы, Файті Грыб і да мора атакі ворагоў ішлі адна за аднэй. Ворагам удалося здабыць тэрыторыю толькі ў ваколіцах Ям'яно, дзе мы былі прымушэны адсунуць нашы войскі назад на 1 кілём. Ва ўсіх іншых пунктах мы удзержалі ў сваіх руках усе пазыцііі.

ВЕНА. 25. V. **Італьянскі тэатр:** Магутны штурм італьянцоў на фронці Ізонцо вызваў і ўчора вострые бітвы. Нашы войскі устаялі на мейсцу. Усе нашы пазыціі асталіся ў нашых руках. 23 мая ўзяты ў палон 130 італьянскіх афіцэроў і 4600 салдатоў. Учора чысло іх значна узрасло.

ВЕНА. 26.V. **Італьянскі тэатр:** Вялікая баталія на італьянскім тэатры трывае далей. Асабліва вострые бітвы ішлі ў ваколіцах Плавы, Водіцы, Монтэ Санто і Гэрцу. Штурмы ворагоў на ўсім фронці зламаліся крывава, нічога не дайшоўшы. На 15 дзень баталіі на Ізонцо ворагі знаходзяцца гэтак сама далёка ад сваей мэты разарваць наш фронт, як і ў першы дзень.

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

ШТОКГОЛЬМ. «Socialdemokraten» даносіць з Амэрыкі:

„На з'ездзі **соц.-дэм.** партыі ў С. Люі, ў сярэдзіне красавіка, вельмі значная большасць галасоў была пададзена **проці вайны**.

ВАШЫНГТОН. Злучэные Штаты пазычылі Англіі ўсяго 400 мільёнаў дольляроў, а Італіі—100 мільёнаў.

БЭРЛІН. (В. Т. Б.). Адна з нашых марскіх лятучых эскадр у начы з 23 на 24 мая атакавала Лондон, Шырнэс, Гарріч і Норріч. Усе лятучые караблі вярнуліся без страт і шкод.

ЛЮГАНО. Італьянскіе газэты пішуць, што 24 мая мінулі два гады ад ваеннаго выступленьня Італіі ў сусьветнай вайне.

ЛЮГАНО. Порты Тарэнт і Палермо зачынены с прычыны небаспекі ад мін.

РОТТЭРДАМ. Да 22 мая у сьпісках Ллойда паказано 249 затопленых караблёў. Да 22 красавіка было паказано толькі 210 затопленых караблёў.

ЛОНДОН. На параходзі «Retorik», затопленым нямецкай падводнай лодкай у каналі, было **100.000 туш скаціны** з Аўстраліі.

# Як змагацца з мышамі і пацукамі.

Паводлуг справоздач, атрыманых у аддзелі XII Об. Ост, і паводлуг уласнай практыкі, у занятых абшарах першае мейсцо па ліку займаюць мышы палявые і жытнікі; робяць яны вялікіе шкоды, асабліва ў паўночнай часьці занятаго абшару. Гэтак у Курляндіі мышы зрабілі шкоды ў умалоці на 40% усяго жніва. Каб зьнішчыць далейшую небаспеку ад гэтых шкоднікоў, у ляборатоpыі Об. Ост, аддзел XII, прыгатаўляюцца способы „**нішчэньня**", каторые на жаданьне хутка высылаюцца ўсім урадам.

Трэба думаць, што вострая зіма і паводка значна зменшылі лік мышэй, аднак немала перэзімавало іх у сьвірнах, пунях, стагох і другіх скрытках, скуль яны ізноў грозяць палям. Дзеля гэтаго трэба цяпер ужо, як мага, рабіць усё, каб папярэдзіць гэту небаспеку ў часі развіцьця расьлін у 1917 г.

Каб адрожніць гэтых малых грызуноў, найбольш расшырэных і знаных у межах Об. Ост, даемо тут важнейшые іхные прыметы:

1) Скурка аднатонная, цёмна-шэрая, пад брушком сьвятлейшая, даўжыня вушэй $=1/8$ даўжыні галавы, хвост=даўжыні тулава з галавой, даўжыня цэлай мышы 10 цм.—**дамовая мыш.**

2) Кажушок шэра-цёмнашэры, даўжыня вушэй $=1/8$ даўжыні галавы, хвост $=1/5$ даўжыні тулава з галавой, даўжыня цэлай мышы каля 15 цм.—**мыш палевая.**

3) Кажушок двутонны, цёмна-шэры і цёмна-жоўты, жываток белы, хвост карацейшы ад тулава, даўжыня вушэй $=1/2$ даўжыні галавы, даўжыня цэлай мышы каля 23 цм., задніе ногі шмат прадоўжэны, ад чаго скачучые рухі— **мыш лесная.**

4) Кажушок трохтонны, цёмна-чырвоны с чорным паяском уздоўж хрыбта, жываток белы, хвост карацейшы ад тулава, даўжыня цэлай мышы 19 цм. — **жытніца** (Brandmaus).

5) Кажушок двутонны, шэры і цёмнашэры, жывот белаваты, хвост карацейшы ад тулава, даўжыня вушэй $=1/4$ даўжыні галавы, агульная даўжыня каля 43 цм. — **падарожная мыш.**

Змаганьне з гэтымі шкоднікамі такое: агульнаго зьнішчэньня можна дасьцігнуць толькі вызваўшы заразу між зьверкамі. Удаецца гэта заражаючы мышэй і пацукоў вядомым лёфлероўскім тыфусам (L. T. B.). Паадзінокіх зьвяркоў найлепш нішчыць атрутай*). Ад вызванай заразы ня ўсе зьвяркі напэўна могуць згінуць; дзеля гэтаго пасьля масоваго здыханьня мышэй на тыфус астаўшыхся трэба вынішчыць с помаччу атруты. Ужываюць тыфусовые культуры, напускаючы у хлеб або ў бульбяные камы, каторые кладуць у мейсцох, дзе трэба заразіць. Ужываньне атруты: на мышэй—збожжэ імпрэгнаванае стрыхнінай, на пацукоў—фосфар у форме кансэрвоў. Тыфусовые культуры, стрыхніна і фосфар пры правільным ужываньні даюць добры рэзультат. **Нішчэньне мышэй заразай трэба пачынаць усюды адначасьне, занімаючы чым большые абшары.** Калі гэта ня будзе зроблено усюды адначасьне, рэзультат ня будзе пэўны, бо зьвяркі ізноў панаходзяць з бліжэйшых мейсц. Культуры тыфусу і атруту трэба выпісываць ад «Abteilung XII des Oberbefehlshabers Ost (Oberquartiermeister) Deutche Feldpost». Цэна за кожную пачку 1,25 мр. Пры кожнай пачцы знаходзіцца апісаньне способу ужываньня.

Ужываць разам культуры тыфусы і атруту найлепш у стадолах, стайнях, клецях, стагох, у каторых зложэны гаспадарскіе прадукты, і на палёх. У жылых памяшчэньнях, у акопах і інш., дзе жывуць людзі, па загаду глаўнаго палевога санітара, трэба ужываць толькі атруту.

Прыродные ворагі мышэй: лісіца, тхор, гарнастай, ласка, вожык, крот, ястрэб-мышэлоў, сокал, совы, вароны і буслы. І вось, насколькі паменёные зьверы і птушкі ня шкодзяць сельскай гаспадарцы, трэбалоб іх аберэгаць і не стрэляць.

*) Ужываньне мышэловак у большым ліку рэкамэндуецца тады, калі яны могуць быць наладжэны прымітыўным способам у сябе дома; бо фабрычнаго вырабу можна дастаць толькі у агранічэным ліку. Палявые мышэлоўкі (трубавіднай формы) высылае фірма Hers & Ehrlich in Breslau (цэна за 100 штук у 1914 гаду—6 мар.).

